



# Рэгіянальная газета. Rh.by




тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

19 лютага 2016 года №8 **(1086)**


## Праграма тэлебачання ў "РГ" зноў укладышам

**Мы дзякуем усім чытачам, якія патэлефанавалі ў рэдакцыю з нагоды змянення фармату праграмы тэлебачання, і па шматлікіх просьбах вяртаем яе на звыклае месца: ў сярэдзіну газеты**

старонкі **9-16**

Літаратурная старонка

## Новы праект "РГ": ЛІТпарад



з Аксанай Ярашонак-Камінскай

старонка **5**







# Беларускія абрады, якія знікаюць

## Масленічны абрад з "пахаваннем" дзеда

і яшчэ шэсць унікальных беларускіх традыцый шукайце на старонках

**20-21**

Фота Сяргея ЛЕСКЕЦА.

### Калі будуць святкаваць Масленіцу

У Маладзечне, Ашмянах, Вілейцы і Мядзеле гулянні запланаваны на 13 сакавіка. Таксама ў сакавіку плануюць адзначаць Масленіцу ў Валожыне і Смаргоні. А вось на Астравеччыне ўжо адсвяткавалі. Гулянні прайшлі ў аграгарадках і вёсках.

Як распавяла начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Наталля Сенюць**, сёлета вырашылі ў самім Астраўцы гулянні не праводзіць, паколькі ў гараджан яны не выклікаюць цікавасці.

Аддзел інфармацыі.

● КОНКУРС "РГ"




## "РГ" запускае конкурс "Раскажы пра свой рамонт"

**Суседзі ляпаюць па батарэях, каб вы сціхлі з перфаратарам, не хапае адной пліткі, якую знялі з вытворчасці, ці грошай нестае на новы кран, які тэрмінова трэба мяняць сёння.**

Калі вы перажылі рамонт хаця б аднаго пакоя і захавалі нармальныя адносіны ў сям'і, то маеце годную нагоду ганарыцца сабой. А калі досвед яшчэ і стаў паспяховым, то пра гэта нельга маўчаць!

Адчайных смельчакоў, якія ў няпросты час робяць рамонт, вырашыла падтрымаць "Рэгіянальная газета" ў сваім новым конкурсе для чытачоў.

Да конкурсу прымаюцца гісторыі пра тое, як вы зрабілі рамонт хаця б аднаго пакоя з фотаздымкам выніку. Пажадана дадаць фота да рамонту.

Падлічыце, колькі каштавалі матэрыялы, у колькі абышоўся рамонт, як выбіралі дызайн. Наколькі вынік адрозніваецца ад задумы? Ці заўважылі вы памылкі, якія дапусцілі ў час рамонту? Што б вы перарабілі?

Вы не толькі дапаможаце з рамонтам іншым чытачам, але і атрымаеце шанец выйграць пры3.

Дасылайце гісторыі, напісаныя ў аб'ёме не большым за 3,5 тысячы знакаў, разам з каштарысам і фотаздымкамі на адрас regionnews@rh.by. Пазначце свой нумар тэлефона. Вашы гісторыі будуць апублікаваныя на сайце rh.by і ў "Рэгіянальнай газеце". Пасля на сайце мы размесцім галасаванне, якое і вызначыць пераможцу.

Дасылаць гісторыі можна ад 19 лютага да 4 сакавіка. Ад 11 да 16 сакавіка адбудзецца галасаванне. А 18 сакавіка мы запросім пераможцу на ўзнагароджанне.

Прызы пераможцам прапануюць спонсары конкурсу "Раскажы пра свой рамонт".

**ІП Алег Валянцінавіч Шульжыцкі** дае сертыфікат на скідку 500 тысяч рублёў на любы тавар катэгорыі "Мэбля" ў студыі мэблі "Інтэк".

**ІП Таццяна Леанідаўна Бойка** прапанавала сертыфікат на скідку 500 000 рублёў на спадарожнікавую антэну.

**ТАА "Саюра"** дае сертыфікат на скідку на вокны ПВХ. На пакупку аднаго акна скідка складзе 250 000 рублёў. На пакупку двух акон скідка складзе 450 000 рублёў. На пакупку ад трох акон скідка складзе 600 000 рублёў.

Усе сертыфікаты дзейнічаюць да 1 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**

## У музеі адкрылі раздзел, прысвечаны воінам-інтэрнацыяналістам

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы 12 лютага ўрачыста адкрылі раздзел экспазіцыі "Выконваючы воінскі абавязак". Прысвечаны ён воінам-інтэрнацыяналістам Мядзельшчыны. Пераважна тым, якія ваявалі ў Афганістане. Але таксама можна даведацца, у якіх яшчэ краінах беларусы прымалі ўдзел у баявых дзеяннях.

Тут сабраная форма, узнагароды, вайсковы рыштунак, асабістыя рэчы.

Ёсць выкідны парашут, афганскія грошы, лістоўкі з заклікамі да афганскіх маджахедаў здавацца, што скідвалі з самалётаў. А ў цэнтры – партрэт ураджэнца вёскі Концiненты **Івана Аніські**, які загінуў у Афганістане.

Стварылі раздзел самі воіны-інтэрнацыяналісты.

– Сам над ім разам з сябрамі па аб'яднанні працаваў, – кажа **Мікалай Калошка** з вёскі Чараўкі. – Тут і мае фатаграфіі ёсць. Абнавілі ўсё, цяпер цікавей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Маладая сям'я мяняе сталічнае жыццё на вясковае

## "На вёсцы значна меней камфорту і нашмат болей фізічнай працы, але ці не яна робіць нас жывымі?"

ВАЛОЖЫН

**Юля Бондар і Аляксей Піскун з Мінска толькі-толькі набылі дом у вёсцы Лоск на Валожыншчыне. І не пад лецішча: падумваюць пра тое, каб жыць тут стала.**


Фота забяспечанае Юлі БОНДАР.

Аляксей і Юля падчас вандроўкі ў Грузію.

Сёння яны раскажуць, чаму хочуць з'ехаць з горада, дзе яшчэ шукалі дом і як плануюць у вёсцы зарабляць на жыццё.

### "У горадзе не хапае натхнення"

Юлі – 25 год. Яна выкладае беларускія народныя спевы, спявае ў этнагурце Ula, журналістка. Аляксею – 29, займаецца фота- і відэаздымкамі. Абодва захапляюцца народнай культурай, аб'язджаюць вёскі і мястэчкі, запісваюць песні і паданні. Маладой сям'і – больш за два гады.

Абое яны мінчане. Жывуць у бацькоў. Зразумела, думалі пра сваё жыллё. Але, у адрозненне ад пераважнай большасці гарадскіх, шукалі яго на вёсцы.

– Пра кватэру ў Мінску мы і не думалі, – тлумачыць Юля. – Бо жыць у кватэры, побач з дзясяткамі суседзяў – гэта не наш варыянт.

**– Чым жа так Мінск не падабаецца?**

– Нам не хапае натхнення – краявідаў наўкола. Гарады бываюць прыгожыя, але яны прыгожыя па-іншаму. Так што ўласны дом на вёсцы – гэта для нас аптымальны варыянт.

Ідэя пераехаць у вёску – агульная. Але ж асноўны штуршок, гэта тое, што ім трэба, сыходзіў ад Аляксея.

– Мінск – добры горад, якіх няшмат у свеце. І справа не ў ім асабіста, а агулам у мегаполісах, – разважае ён. – Гэта заўсёды бесперапынны шум, брудное паветра, засмечаная інфармацыйная прастора, надуманыя праблемы, мітусня і адзінота. Можна было б сказаць, што вялікія гарады – выдатнае месца для працы, але ж ці прадукцыйная тая праца, калі яе робяць людзі без унутранай гармоніі і ў большасці выпадкаў няшчасныя? Рэч банальная, але калі хочаш паспрыяць шчасцю іншых, то найперш трэба знайсці яго ўнутры сябе. І наваколле, у якім ты знаходзішся, іграе не апошнюю ролю ў такіх пошуках. У вясковым жыцці значна меней камфорту і нашмат болей фізічнай працы, але ці не яна робіць нас жывымі?

### Сябры ўспрынялі задуму з захапленнем

Ідэю з'ехаць у вёску знаёмыя і сваякі ўспрынялі па-рознаму. Маладзейшыя – з захапленнем, старэйшыя, тыя, хто сам выбраўся з вёскі, лічаць гэткі крок занадта смелым.

– У іх найперш узнікаюць пытанні практычнага зместу: як там дарогі, як вада, як мыцца. Намагаемся тлумачыць, што ўсё вырашальнае, – кажа Юля. – Але прызна ўспрымаюць. Разумеюць, што нам гэта неабходна, што мы настроеныя сур'ёзна. Бацькі прынялі нашу ідэю, за што ім вялікі дзякуй.

### Свой дом шукалі паўтара года

Пошукі вялі ў розных месцах: на Палессі, у розных кутках Міншчыны.

– Нам было важна, каб мелася падведзенае да дому святло. Каб існавалі пэўныя гарадскія асаблівасці, але каб гэта не быў які аграгарадок. Бо там часта зямля падзеленая на квадраты, і праяўляецца гарадскі лад жыцця, – тлумачыць Юля.

Як прыехалі на Валожыншчыну, зразумелі, што тут таксама ёсць з чаго выбіраць: прыгожыя мясціны, шмат закінутых хатаў. У выніку знайшлі дом у Лоску. Былі проста зачараваныя яго месцазнаходжаннем.

– Дом стаіць каля пагорка. Далей пералесачак. Сама вёска – у адзін бок, а вось дзе наш дом і суседзяў – у іншы, – з захапленнем апісвае Юля. – Наверх лес, трошкі ўніз рачулка, каля самага дома расце агромністая ліcтоўніца. Не ведаю, колькі ёй год, але бачна, што дрэва вельмі старое.

І сад тут ёсць, і дом у добрым стане.

– Мы зразумелі, што такі варыянт нам вельмі пасуе. Хоць не шукалі шмат выгод, але атрымалася так, што ёсць святло, тэлефон, з дапамогай "ручайка" падведзеная да дому вада.

### Варыянтаў працы – шмат

Моладзь з вёскі звычайна з'язджае таму, што няма добрай працы. А як збіраюцца нашы героі зарабляць на жыццё?

– Ёсць шмат варыянтаў: нам застаецца толькі тыкнуць пальцам, – адказваюць. – Разам займаемся фота- і відэаздымкамі, мантажом, працуем як журналісты. Таму можам па першым часе ездзіць у Мінск на здымкі раз на тыдзень, астатні час апрацоўваць фота, відэа і высылаць – гэта можна рабіць і з вёскі.

Аляксей паспрабуе заняцца рамесніцтвам. Ён захапляецца разьбой па дрэве, робіць мэблю.

Па магчымасці хочуць спалучаць розныя віды дзейнасці, каб гэта была праца і ручная, і інтэлектуальная. Юля і Аляксей паспрабуюць вырошчваць прадукты, бо абодва не ядуць мяса.

Можа, і захапленне Юлі тут спатрэбіцца:

– Мне было б цікава папрацаваць з вяскоўцамі, якія яшчэ памятаюць народныя песні, але пакуль яшчэ я не звязалася з культработнікамі. Можа, такі варыянт магчымы – стварыць мясцовы калектыў і паспрабаваць пазапісваць тое, што яны памятаюць? Па суседстве – большая вёска Гародзькі. Мяркую, што магчыма завабіць моладзь, рабіць разам нешта больш цікавае за тэлек ці танцулі ў клубе.

Цяпер Юля і Аляксей намагаюцца завяршыць усе мінскія справы, якія трымаюць, і хутчэй пераехаць у Лоск. Прыкідваюць, якія па першым часе патрэбныя працы па доме.

– Нейкі скепсіс прысутнічае: як і ці зможам зрабіць тое ці іншае. Але ў любым выпадку – не паспрабаваўшы, не зможам дазнацца, на што мы здольныя, – кажуць.

"РГ" пастараецца расказаць, як у мінчан складзецца жыццё на новым месцы.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

# Каму пашкодзіць фільтр для вады

МАЛАДЗЕЧНА

**Самай лепшай па смаку і якасці ў раёне з'яўляецца "жывая" вада з крынічак у Ракуцёўшчыне і побач з былым санаторыем-прафілакторыем "Плёсы".**



Фота joyreactor.cc.

Доктар-гігіеніст запэўнівае, што водаправодная вада ў Маладзечне годнай якасці.

Летась у лабараторыі Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (ЦГЭ) даследавалі 2 866 проб пітной вады з цэнтралізаваных сістэм водазабеспячэння. З іх 99,6% адпавядалі гігіенічным нарматывам па мікрабіялагічных паказчыках, што пацвярджае бяспеку водаправоднай вады ў эпідэміялагічных адносінах.

У той жа час 47% даследаваных проб артэзіянскай вады перавышае нарматыў па колькасці жалеза. Павышанае ўтрыманне жалеза абумоўлівае прыроднымі асаблівасцямі і пагаршае спажывецкія ўласцівасці. У водаправодны сетцы якасць вады лепшая, бо артэзіянская вада з водазабораў "Крыніца" і "Гелянова" для Маладзечна, Чысці, Раёўкі, Груздава чысціцца на станцыях абезжалезвання.

Летась на новых артэзіянскіх свідравінах у Алёхнавічах і ў Хоўхлаве ўведзеныя ў эксплуатацыю ўстаноўкі абезжалезвання вады. Цяпер вядзецца праектаванне ўстановак па абезжалезванні вады для артсвідравін у Дубраве, Красным, Радашкавічах.

Жыхарам такіх населеных пунктаў, як Радашкавічы, Палачаны, Заскавічы, Хажова, Лебедзева, Дубрава, Краснае, іншых, рэкамендуецца выкарыстоўваць бутыляваную ваду, або піць водаправодную ваду, якая адстаялася не менш за тры гадзіны, бо ў водаправоднай вадзе павышанае ўтрыманне жалеза. Можна прымяняць простыя фільтры, якія выбіральна зніжаюць ўтрыманне жалеза.

Выкарыстоўваць дарагія фільтры тонкай ачысткі жыхарам Маладзечна, Чысці і іншых населеных пунктаў немэтазгодна і нават шкодна. Вада пасля фільтраў тонкай ачысткі становіцца дэіанізаванай, утрыманне неабходных для арганізма іонаў кальцыю, магнію, калію, натрыю пасля фільтрацыі становіцца ніжэйшым за дапушчальны ніжні парог фізіялагічнага нарматыву.

Водаправодная вада ў Маладзечне і Чысці цалкам адпавядае гігіенічным нарматывам, у тым ліку і па агульнай мінералізацыі, якая знаходзіцца на аптымальным узроўні.

**У Маладзечне пасля прымянення фільтра мінералізацыя водаправоднай вады змяншаецца.**

Пры выкарыстанні такой вады для піцця парушаецца рэгуляцыя водна-электралітнага балансу, павялічваецца ўтрыманне электралітаў ў сыроватцы крыві і мачы з іх паскораным вывядзеннем з арганізма, адбываюцца змены ў сардэчна-сасудзістай сістэме.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, доктар-гігіеніст (загадчык аддзялення) камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Лічба нумара

На **100** мужчын у краіне прыходзіцца **115** жанчын

Паводле Нацстата.

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.02 | 18.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 22 069,00 | **21 914,00** |
| Еўра | 24 842,00 | **24 438,00** |
| Злоты | 5 519,42 | **5 504,76** |
| Расійскі рубель | 279,08 | **281,10** |
| Грыўня | 844,58 | **800,22** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 17.02** | | |
| Еўра | 24400/24900 | **24100/24500** |
| Долар ЗША | 21800/22050 | **21600/21920** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **10.02** | **17.02** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 151 300 | **151 300** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **43 200** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | **17 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 25 000 | **25 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 58 500 | **64 900** |
| Капуста, 1 кг | 5 500 | **5 500** |
| Морква, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 69 000 | **59 900** |
| Лімоны, 1 кг | 43 500 | **43 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **29 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 000 | **23 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **33 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 33 000 | **30 000** |
| Агуркі, 1 кг | 35 000 | **40 000** |
| Перац, 1 кг | 60 000 | **59 900** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 25 000 | **23 900** |
| Хурма, 1 кг | 29 000 | **29 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 45 000 | **55 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 500 | **14 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22 000 | **30 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

# У Маладзечне і раёне плануюць зрабіць капітальны рамонт 20 дамоў

МАЛАДЗЕЧНА

**З'явіўся пералік дамоў у Маладзечне і раёне, у якіх плануюць зрабіць капітальны рамонт.**

У спіс увайшлі дзесяць дамоў у Маладзечне, тры ў Радашкавічах, два ў Алёхнавічах, Чысці, аграгарадку Беразінскае, адзін у Насілаве.

### Дамы, у якіх плануюць капітальны рамонт у Маладзечне

Капітальны рамонт асобных канструктыўных элементаў (да іх адносяцца сцены, перакрыцці, лесвіцы, вокны, дзверы) чакае чатыры дамы ў Маладзечне: два па Маўчанскага, 20 і 7, адзін па Маркава, 15 і Лебедзеўскай, 18.

– Напрыклад, па Маўчанскага, 20 над уваходам у пад'езд зробяць казырок, у месцах агульнага карыстання памяняюць уваходныя дзверы, – расказала начальнік жыллёвага аддзела УП "Камунальніка" **Вольга Шыцік**. – Заменяць дах з шыферу на металачарапіцу, памяняюць праводку, уцепляць фасады. Для жыхароў выдатнай навіной стане тое, што падвядуць гарачае водазабеспячэнне.

Дваровую тэрыторыю добраўпарадкуюць у двух дамах. Па Будаўнікоў, 1 плануюць капітальны рамонт; па Міру, 20 і 24 завяршацца работы па добраўпарадкаванні.

У доме па Віленскай, 25 плануюць уцяпліць фасад, завяршыць рамонт даху. У дамах па Прытыцкага, 14 і Вялікім Гасцінцы, 109 заменяць шыфер. У доме па Хмяльніцкага, 6-г плануюць капрамонт з элементамі мадэрнізацыі.

### Дзесяць дамоў плануюць адрамантаваць у раёне

У Радашкавічах уцепляць дамы па Усходняй. У дамах №№3 і 13-а – тарцы, у доме №5-а – сцены. Таксама ў доме №13-а скончаць рамонт даху.

У Алёхнавічах два дамы чакаюць рамонту. Па Маладзёжнай, 8 завершаць рамонт асобных канструктыўных элементаў жылога дома. Па Цэнтральнай, 8 плануюць капітальны рамонт даху.

У Чысці скончыцца капітальны рамонт даху ў доме №2 па вуліцы 1-ы Мікраёэн. Па Цэнтральнай, 144 плануюць пачаць рамонт даху.

Дамы па вуліцы Зялёная, 2 і Кастрычніцкая, 3 у аграгарадку Беразінскае чакае капітальны рамонт асобных канструктыўных элементаў жылога дома. Па Зялёнай работы сёлета скончацца.

– Большасць жыхароў Кастрычніцкай, 3 патрабавалі ўмацаваць балконы, – распавядае Вольга Шыцік. – Таму ў першую чаргу будзем рабіць менавіта іх. Пакуль праект рамонту дома распрацоўваецца.

У Насілаве адрамантуюць сістэму водазабеспячэння і водаадвядзення па Гастэлы, 6.

Спіс можна пaглядзець на сайце УП "Камунальнік".

Па любых пытаннях вы можаце звярнуцца ў жыллёвы аддзел "Камунальніка" па тэлефоне **(80176) 73-58-92**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Стала вядома, калі разгледзяць скаргу на смяротны прысуд віляйчаніну

**ВІЛЕЙКА**

Вызначылі дату судовага пасяджэння па касацыйным разглядзе Вярхоўным судом скаргі на смяротны прысуд у дачыненні да віляйчаніна.

Вярхоўны суд разгледзіць гэту крымінальную справу 22 сакавіка, паведаміла прэс-сакратар Вярхоўнага суда Беларусі **Юлія Ляскова.**

Нагадаем, што ў Вілейцы 5 студзеня Мінскі абласны суд вынес смяротны прысуд 48-гадоваму віляйчаніну, які збіў да смерці сужыцніцу.

Раней мужчыну прыгаворвалі ўжо да смяротнага пакарання за здзейсненыя ў 1989 годзе злачынствы. Але Вярхоўны суд па яго скарзе тады прысуд адмяніў. У выніку смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Улоў невялікі, а налічылі віляйчанам 23 мільёны рублёў за здабытую рыбу

**ВІЛЕЙКА**

Двух жыхароў Вілейкі затрымалі супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пасля незаконнай здабычы рыбы.

Адбылося гэта 4 лютага на абвадным канале Вілейскага вадасховішча, паблізу ўрочышча Сенішча.

– Сеткі ў няўдалых рыбаловаў былі кароткія, усяго 21 метр, а ўлоў не заважыў і сямі кілаграмаў. Але прычыненая навакольнаму асяроддзю шкода перавысіла 23 мільёны рублёў. А гэта з'яўляецца буйным памерам прычынення шкоды, – паведаміў старшы дзяржінспектар міжрайінспекцыі **Уладзімір Хіла**.

Праваахоўныя органы ў дачыненні да мужчын узбудзілі крымінальную справу па факце незаконнай здабычы рыбы.

Акрамя выплаты шкоды, яны паўстануць перад судом. За гэты від парушэння Крымінальным кодэксам Беларусі прадугледжаная адказнасць у выглядзе штрафу або пазбаўлення волі на тэрмін да трох год.

Віляйчан раней прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці за браканьерства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Мужчына адышоўся ад прыпынку – у гэты час у яго скралі сумкі

**ВІЛЕЙКА**

У міліцыю 13 лютага давялося звярнуцца 58-гадоваму жыхару Вілейкі.

Каля васьмі гадзін раніцы на прыпынку грамадскага транспарту па вуліцы Чырвонаармейскай у яго нехта скраў бензапілу і дрыль.

Мужчына адышоўся ад прыпынку да перакрыжавання, каб паглядзець, ці ідзе аўтобус. А дзве сумкі пакінуў на прыпынку. Гэтым нехта і скарыстаўся: за лічаныя хвіліны зніклі сумкі, што засталіся без нагляду, расказаў прадстаўнік прэс-службы... 

Злодзей прычыніў мужчыну шкоду на суму больш за пяць мільёнаў рублёў.

Па факце крадзяжу ўзбудзілі крымінальную справу.

Калі хто валодае інфармацыяй па гэтым здарэнні, просяць патэлефанаваць па нумары 102.

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечанскія следчыя атрымалі кубак як лепшае падраздзяленне

Ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці падвялі вынікі працы следчых падраздзяленняў абласнога ведамства за мінулы год. Прымаў удзел і старшыня Следчага камітэта **Іван Наскевіч.**

Следчым падраздзяленням, якія паказалі лепшыя вынікі працы за 2015 год, уручылі кубкі і вымпелы. Кубкам "Лепшае следчае падраздзяленне" першай групы ўзнагародзілі Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта. Пра гэта расказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Кралі відэарэгістратары, магнітолы і навігатары

### Двух братоў з Вілейшчыны і жыхароў Маладзечаншчыны падазраюць у серыі крадзяжоў з аўтамабіляў

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта расследуе крымінальную справу ў дачыненні да групы асоб, якія ўчынілі серыю крадзяжоў з аўтамабіляў.**


Фота urist-land.ru

У больш за 15 крадзяжах з машын падазраюць трох мужчын і 15-гадовага навучэнца.

У канцы мінулага года ў Маладзечанскім і Вілейскім раёнах зарэгістравалі шэраг крадзяжоў з машын. Невядомыя разбівалі шкло і пранікалі ў салоны прыпаркаваных на неахоўных стаянках аўтамабіляў. Выкрадалі відэарэгістратары, навігатары, магнітолы і іншую тэхніку.

Следча-аператыўная група ўстанавіла, што злачынствы здзяйснілі адны і тыя ж асобы.

– Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынстваў затрымалі раней судзімых жыхароў Вілейшчыны, 24-гадовага і 28-гадовага братоў, а таксама 42-гадовага раней судзімага жыхара Маладзечанскага раёна і яго непаўнагадовага пасынка, – расказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог.**

Падчас расследавання ўстанавілі дачыненне фігурантаў да больш за 15 крадзяжоў. Частку скрадзеных рэчаў знайшлі і забралі падчасператрусаў.

Тром падазраваным прад'явілі абвінавачанне за крадзеж, учынены групай асоб. Іх заключылі пад варту. 15-гадовага навучэнца аддалі пад нагляд маці.

Следчыя правяраюць фігурантаў на дачыненне да аналагічных злачынстваў у іншых рэгіёнах.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мінчанін падчас сваркі параніў двух маладзечанцаў у шыю і жывот

**МАЛАДЗЕЧНА**

Інцыдэнт, які закончыўся шпіталізацыяй для адных і крымінальнай справай для другіх, адбыўся ў Маладзечне ў суботу, 13 лютага.

У міліцыю патэлефанавала жанчына і сказала, што пад яе вокнамі адбываецца бойка.

А "Рэгіянальнай газеце" пра тое, што адбылося па вуліцы Будаўнікоў, расказаў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**:

– Да маладзечанца ў госці прыехаў сябра з Мінска. Мужчыны, якім па 53 гады, разам выпівалі. Пасля выйшлі на вуліцу, дзе ля пад'езда сядзелі двое мясцовых жыхароў прыкладна такога ж узросту. Яны былі таксама нецвярозыя.

Паміж імі ўзнікла сварка. Мінчанін ударыў аднаго з мужчын нажом у жывот, а другому нанёс удар у шыю.

Мужчына з колата-рэзанымі ранамі шпіталізаваны, а таму, каму ўдарылі нажом у шыю, наклалі швы і адпраўляць у бальніцу не сталі.

Прычына сваркі высвятляецца. Мінчанін затрыманы. Сваёй віны ён не адмаўляе.

**Наталля ТУР.**

**● УВАГА! ВЫШУК**

## Шукаюць мужчын, якіх падазраюць у махлярстве

У шэрагу махлярскіх дзеянняў падазраюць **Аляксандра Уладзіміравіча Міхайлоўскага**, які нарадзіўся 12 чэрвеня 1989 года, і **Кірыла Уладзіміравіча Гаранскага**, які нарадзіўся 11 снежня 1972 года.

Па версіі следства, яны ў 2015 годзе падманвалі людзей, злоўжывалі іх даверам. Называлі сябе прадпрымальнікамі па вырабе мэблі і бралі грошы.

Яны складалі падрабязныя дагаворы на выраб мэблі, у якіх запісвалі дадзеныя іншых людзей. Атрымлівалі перадаплату за заказ, але свае абавязкі не выконвалі.


Аляксандр Міхайлоўскі.


Кірыл Гаранскі.

Калі вы сталі ахвярай злачынства, у якім падазраюць зніклых, просім паведаміць па тэлефонах: **102, (80176) 77-16-56, (8033) 334-10-64.**

## Шукаюць за нявыплату аліментаў

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае **Сяргея Іванавіча Скрыля,** які нарадзіўся 23 лютага 1969 года. Жыве ў Маладзечне.

Яго шукаюць за нявыплату аліментаў.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміце па тэлефонах: **102, (80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56.**


Сяргей Скрыль.

**Паводле паведамлення аддзела ўнутраных спраў Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**




**Вершы Аксаны Ярашонак-Камінскай**

**Мой філфак**
(*Міколу Шабовічу*)

Тут сам сабой рыфмуецца радок
І піша час знаёмыя канспекты.
А, можа, нават у начны паўзмрок
Сыходзяць ціха класікі з партрэтаў.

За вокнамі хвалюецца праспект
І плынь машын насустрач дню нясецца.
Аўтамабільны акампанемент
Ізноў стварае фон для Вашых лекцый…

Няхай жыццё свой не спыняе крок,
Праз люстра год усё змагу я ўбачыць:
Шуміць праспект. Рыфмуецца радок.
І ў вусы усміхаецца Выкладчык.

***

Звонка і мажорна
Па траве густой,
І па парасонах,
І паміж кустоў,
Па плячах і тварах,
Надпісах вітрын,
І па тратуарах,
І па шкле машын,
Баючыся страціць
Свой шалёны тэмп,
За акенцам, глянце,
Дождж танчыць стэп!

**Верш, напісаны ў аўтобусе**

За акном загуло.
Зімна. Слотна.
Я вітаю праз шкло
Горад родны.

Снегадождж. Шэры бруд.
Пыл дарожны.
Мне б спыніцца вось тут,
Ды няможна.

Цісне сэрца адчай.
Так самотна.
Выбачай… Выбачай,
Горад родны.

***

*Няма таго,*
*што раньш было…*
***Максім Багдановіч***

Сумую разам з класікам
Па тым, што больш не вернецца.
Не хоча час спыняцца,
А ў памяці заўжды
На тоненькіх абцасіках
Па доўгай-доўгай лесвіцы
Бягуць майго юнацтва
Шчаслівыя гады.

**Сабе і ўсім жанчынам у завейныя дзянькі**

Марозцам студзень апячэ.
Нарэшце прэчкі сыдзе восень.
Нацягнеш шалік да вачэй –
Вось і не трэба пудрыць носік.

***

Раніцай пахмурна-соннай
Вочы расплюшчыць змагла я
І не з будзільніка звонам,
І не з размовай трамваяў,
Нават не з сонца праменнем
Цёплым, пяшчотным, дрыготкім
І не з канцэртамі пеўняў,
Як нашы слаўныя продкі…

Што ж пабудзіла так рана?
Твой пацалунак, каханы.

# Аксана Ярашонак-Камінская: "Культура не павінна чакаць вырашэння эканамічных праблем"

## "Рэгіянальная газета" распачынае літаратурны праект

**Не адзін год чытачы "РГ" прапаноўвалі рэдакцыі адкрыць літаратурную старонку. Адны хацелі, каб прачыталі іх творы, іншыя чакалі вершаў землякоў. І з году ў год мы адмаўляліся ад гэтай ідэі.**

Як узяць на сябе смеласць прыняць вершы аднаго аўтара, адмовіўшы іншаму? Як пазбегнуць крыўдаў ад уразлівых творцаў? Гэта складаная задача, якую, на думку рэдакцыі, мы ўпершыню вырашылі сёлета, у Год культуры.

Першым крокам стаў выбар вядучага гэтай рубрыкі. Ён павінны быць знаёмы чытачам, звязаны з рэгіёнам і з літаратурай. Дастаткова малады, каб стварыць новы праект і вучыцца ў час яго падрыхтоўкі, і ў той жа час дастаткова знаёмы з літаратурай, каб даваць ацэнку і аналізаваць творы.

Ідэальнай вядучай стала **Аксана Ярашонак-Камінская**, добра знаёмая чытачам "РГ". Аксана расла ў Маладзечне, а пасля замужжа пераехала ў Ілью, дзе працуе ў школе педагогам-арганізатарам.

Другім крокам кіраўніца літаратурнага праекта прадумала яго канцэпцыю. Літаратурная старонка сёлета будзе мець сем выпускаў. Кожны з іх будзе прысвечаны аднаму з сямі раёнаў, для якіх існуе "Рэгіянальная газета" – Маладзечанскаму, Вілейскаму, Мядзельскаму, Валожынскаму, Ашмянскаму, Смаргонскаму і Астравецкаму.

Для кожнага выпуску Аксана падрыхтуе ўступ, які пакажа цікавосткі аб літаратурным багацці абранага раёна. Чытачам прапануе вершы аўтара-мэтра, а таксама творы паэта-пачаткоўцы. Запрошаны мэтр дасць таксама парады маладым творцам, якія спрабуюць сябе ў паэзіі.

Першы выпуск, запланаваны на 4 сакавіка, будзе прысвечаны паэтам, якія паходзяць з Мядзельшчыны. А сёння мы прапануем нулявы выпуск, у якім бліжэй пазнаёмім чытачоў з вядучай "Літпарада Павілля" Аксанай Ярашонак-Камінскай.

### З якім настроем распачынае год

– 2015-ы закончыўся добра для мяне. У лістападзе атрымала ўзнагароду і адказную, і прыемную – медаль "Ігар Грыгор'еў – воін і паэт". Другі год праводзілі канферэнцыю, прысвечаную гэтаму рускаму паэту, і я ў абедзвюх удзельнічала.

А 2016-ы пачаўся выдатна – узнікла прапанова супрацы з "РГ". Усведамляючы адказнасць і рызыку весці літаратурную старонку, я пагадзілася, таму што гэта мая мара. І гэту мару атрымалася здзейсніць не ў сталіцы, дзе выходзіць шмат літаратурных часопісаў, а тут, у родным горадзе, у газеце, якую ведаю з дзяцінства!

**– Мы прымяркоўваем праект да Года культуры. Але што вы адкажаце на пярэчанні, што ў час складанай эканамічнай сітуацыі і не да культуры, і не да паэзіі?**

– Гэта добры час для культуры. Калі я ехала з фестываля "Берагі дружбы" з Таганрога, са мной ехаў мужчына, ваенны музыкант з Данецка. Калі пачаліся баі, то пераехаў да дзяцей у Мінск. Ён заўважыў, што ў час, калі адбываюцца страшныя рэчы, кансерваторыя поўная, а ў тэатрах аншлагі.

Магчыма, наадварот, калі ў людзей праблемы, ім яшчэ больш трэба культура. Яна можа стаць аддушынай.

Культура не павінна чакаць, калі вырашацца эканамічныя праблемы.

### Чаканні ад праекта

– Я не хацела б, каб праект праз год спыніў існаванне. Хацела б, каб ён перарадзіўся ў нешта новае.

Чакаю адкрыццяў, з якімі я ўжо сутыкнулася. Калі пачала рыхтавацца да праекта, знайшла новыя імёны, якія, да майго сораму, раней былі незнаёмыя.

Калі маладзечанцы, магчыма, ведаюць мясцовых паэтаў, то астравецкія ці ашмянскія могуць быць для іх чыстай старонкай. Чакаю, што жыхары рэгіёна будуць лепш ведаць паэзію свайго краю.

Сутыкнулася з тым, што сярод моладзі няшмат тых, хто піша вершы па-беларуску. Паколькі мы будзем друкаваць толькі беларускамоўныя творы, спадзяюся, для некага гэта паслужыць стымулам.

**– Чаму для вас было важным уключыць крытычны складнік?**

– Чалавек, які піша, няўмольна сутыкнецца з крытыкай. Мне пашанцавала на крытыкаў, яны дакладна ўказвалі на недахопы і не адбівалі ахвоту пісаць. Калі ўліваешся ў творчы працэс, то крытыку ўспрымаеш адэкватна. А парады літаратараў у нашым праекце могуць быць падрыхтоўкай да сур'ёзнай крытыкі.

**– Ці праўда, што ў добры верш трэба ўкласці балючыя перажыванні? Ці добра, калі верш стаў для аўтара тэрапіяй?**

– Стрэс можа быць і станоўчы. І добра, калі вершы пішуцца на станоўчых перажываннях.

Слову заўсёды надавалася магічнае значэнне. Калі нешта паўтараць шмат разоў, гэта абавязкова адбудзецца, а калі яшчэ і напісаць, то дакладна чакай здзяйснення. Ёсць шмат прыкладаў, калі творцы прадказваюць сваю смерць, і так яно і адбываецца.

### Што робяць сучасныя аўтары, каб здзівіць

– Цяпер рыфма для верша стала даволі адносным паняццем. Але я заўсёды лічыла, што цяжэй напісаць добры зрыфмаваны верш, чым добры верлібр. Таму што зрыфмаванаму вершу ўжо шмат гадоў, і, здаецца, што новага можна сказаць пра каханне ці восень? Часта нічога новага зрыфмаваным вершам не скажуць.

Таму мне важна, каб рыфма была не зацягнаяя, а вобразнасць – арыгінальнай.

Нехта здзіўляе формай, іншыя пішуць без знакаў прыпынку і ўсё з маленькай літары.

У час студэнцтва мы забаўляліся тым, што злучалі малюнак з вершам. Напрыклад, малюеш сонейка і пішаш "Кволае сонца Па засені недарэчнасці. Амаль зіма". І кавалак тэксту залазіць на сонца. Быў у мяне верш пра прыступкі: "Кожны наступны дзень Усяго толькі чарговая прыступка На доўгай лесвіцы нябыту" – і пісала гэта лесвічкай.

**– Ці згодныя вы, што беларускамоўныя аўтары свядома абмяжоўваюць аўдыторыю?**

– Не зусім. Рускамоўным паэтам менш пляцовак для друку ў Беларусі. Так і павінна быць. У салідных выданнях рускія вершы не друкуюць. Адна з паэтак, якая піша па-руску, каб трапіць у "ЛіМ", прасілася, каб я яе пераклала на беларускую мову.

Паэзія – камерны від мастацтва. Гэта Маякоўскі збіраў у зале дзве тысячы чалавек, якія сачылі за кожным яго рухам. У паэзіі ўвогуле абмежаваны чытач.

Літаратурныя выданні набываюць тыя, хто ўжо зацікаўлены ў літаратуры. А калі мы распачнём праект у "Рэгіяналцы", то паэзія наблізіцца да людзей, не звязаных з літаратурай праз працу.

### Як паэту знайсці чытача

Сустрэчы са школьнікамі ці студэнтамі не заўсёды маюць шанец на поспех. Госцю трэба прадумаць выступленне, каб не было нудным, каб была гутарка з залай. І арганізатарам трэба рыхтавацца. Напрыклад, запрасіць **Адама Мальдзіса** да пяцікласнікаў – гэта не лепшая ідэя, трэба стасоўваць аўдыторыю і выступоўцу.

Калі мы з **Рагнедам Малахоўскім** выступалі ў маладзечанскім музкаледжы, то ён шмат усміхаўся дзяўчатам, жартаваў, напрыклад: "Давайце задавайце пытанні, ці вы хочаце, каб я вам тут паўгадзіны яшчэ вершы чытаў?"

**– У чалавека, які неглыбока разбіраецца ў беларускай літаратуры, можа скласціся ўражанне, што яна абмежаваная вобразамі стогадовай даўніны: жураўлямі, сенажацямі. Як тады яна можа быць блізкай і цікавай сучаснай моладзі?**

– **Мікола Кутас** неяк заўважыў, што ну, колькі можна пісаць пра сенажаці. Жыццё мяняецца, а некаторыя паэты працягваюць выкарыстоўваць вобразы, якія апісалі сто год таму, не гаворачы нічога новага. Паэзія таксама павінна змяняцца, каб заставацца запатрабаванай.

Калі ў літаратуры будзе змест, цікавы маладым, то будзе і чытач.

Цяпер я захапілася **Няклаевым** – чытаючы яго вершы, знаходжу тое, што было на паверхні, тое, што адчувала я. Гэта паказчык якасці, калі нехта, прачытаўшы верш, кажа: "Дык гэта ж пра мяне". Хто сёння, прачытаўшы пра сенажаць, скажа, што "гэта пра мяне"?

Зоя ХРУЦКАЯ.


Фота Наталлі ТУР.

Вядучыя імпрэзы Марыя Кароль і Наталля Кісель узнагароджваюць самага старэйшага чытача бібліятэкі Аляксандра Савянка.

## Мая радзіма там, дзе мая бібліятэка

МАЛАДЗЕЧНА

**З гэтых слоў Эразма Ратэрдамскага ў чацвер, 11 лютага, у бібліятэцы "Верасок" пачалася імпрэза, на якой падвялі вынікі конкурсу "Чытач года – 2015".**

Сёлета самых актыўных чытачоў узнагародзілі ў 11 намінацыях.

Самым старэйшым чытачом года стаў **Аляксандр Савянок**. Ён прызнаўся, што чытаць пачаў яшчэ тады, калі адрас бібліятэкі быў – вуліца Рэвалюцыйная.

– Чытачом маладзечанскай бібліятэкі я з'яўляюся ад 70-х гадоў. Не магу ні дня пражыць без кнігі. Але ведаеце, што проста прыводзіць у шаленства? Гэта калі раптам бачу ў кнізе выраўную старонку. Шкада, што людзі не шануюць кнігі.

У намінацыі "Дэтэктыўныя тайны" перамог чытач **Сяргей Дзятліковіч**, які ў 2015 годзе прачытаў 112 дэтэктываў.

Сяргей працуе слесарам на камбінаце хлебапрадуктаў. Калі яму ўручалі ўзнагароду, шчыра прызнаўся:

– Чытанне дэтэктываў развівае мысленне, і , насамрэч, вельмі дапамагае. Бывае, чуеш па тэлевізары нейкую крымінальную гісторыю і ўжо можаш рабіць высновы, хто злачынца.

Аматарам фантастыкі прызналі **Сяргея Ляха.**

На пытанне, чаму менавіта такі жанр у Сяргея самы любімы, мужчына адказаў, што для яго гэта магчымасць адарвацца ад рэальнасці і трапіць у іншы, фантастычны свет.

Трапіць у іншы свет кнігі дапамагаюць і чытачцы, якая перамагла ў намінацыі "Лэдзі жаночага рамана", **Алене Саўчыц.**

– Канешне, жаночы раман – гэта свет, у якім жыве сапраўднае, чароўнае каханне. Калі чытаеш такія кнігі, быццам трапляеш у прыгожую казку.

Асобнай намінацыяй адзначылі "патрыёта беларускай літаратуры" **Аляксандра Акушку.**

– Я чытаю беларускія кнігі беларускіх класікаў, таму што ў іх знаходжу адказы на пытанні, што адбываецца сёння, – расказвае Аляксандр.

Самая чытаючая сям'я 2015 года **Аляксея і Таццяны Бурдзіных** прызналася, што паўгода жывуць на лецішчы:

– А што можа быць лепей, калі на адной канапе з жонкай, пад адным пледам, а за акном дождж, а ты ляжыш і чытаеш.

Ёсць сярод чытачоў бібліятэкі і аматары перыёдыкі. Тыфлапедагог **Ганна Мядведская** ў 2015 годзе прачытала 6000 часопісаў.

– Часопіс – гэта кніга ў мініяцюры, – лічыць Ганна. – Насамрэч, часопісы ў бібліятэцы бяру на ўсю сям'ю. У нас ёсць сямейная традыцыя штодня за вячэрняй гарбатай абмяркоўваць, хто што прачытаў.

Перамога ў намінацыі "Аматар кніжных навінак" дасталася **Наталлі Юркевіч.**

Наталля расказала, што апошнім часам у яе атрымоўваецца падарожнічаць, таму найбольшую цікавасць выклікаюць кнігі, якія прысвечаныя тэме падарожжаў або расповедам пра нейкія цікавыя месцы.

– З апошняга з задавальненнем прачытала кнігу пра Праванс **Пітэра Мэя.**

Не забыліся арганізатары конкурсу і пра маладых чытачоў, для іх выдзелілі спецыяльную намінацыю "Самы перспектыўны чытач". І прыз у гэтай намінацыі атрымала вучаніца 11 класа сярэдняй школы №2 **Маргарыта Абалішына.**

Спецыяльнай намінацыяй і салодкім падарункам узнагародзілі самае чытанае прадпрыемства. Ім стаў Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў.

А "Чытачом года – 2015" стала **Любоў Лыско**. У якасці галоўнага прыза яна атрымала пажыццёвы чытацкі білет.

**Наталля ТУР.**

# "Хавалі з упрыгажэннямі і рытуальным посудам"

## У курганах знаходзяць тое, што продкі клалі нябожчыку на той свет

МЯДЗЕЛ

**Якія знаходкі хаваюцца ў курганах, калі праца археолага падобная на складанне пазлаў. Пра гэта распавёў археолаг кандыдат гістарычных навук Мікалай Плавінскі.**

Летась Мікалай Плавінскі з валанцёрамі правёў раскопкі на курганным могільніку Наўры на Мядзельшчыне. Гэта могільнік крывічоў канца 10 – пачатку 12 стагоддзяў. Яго даследавалі яшчэ з канца 19 стагоддзя. Раскопкі вялі ў 1934 годзе археолагі з музея Віленскага ўніверсітэта. Пасля яны праводзіліся ў савецкі час. У 2012 годзе даследаванні былі адноўленыя.


Фота з асабістага архіва Мікалая ПЛАВІНСКАГА.

Мікалай Плавінскі падчас раскопак на курганным могільніку Наўры.

### Знаходзяць гаршкі, бранзалеты, кольцы...

Летась на могільніку Наўры былі даследаваныя два курганы. У адным было пахаванне дзяўчынкі гадоў шасцівасьмі, якое датуецца сярэдзінай 11 стагоддзя. Знайшлі ляпны гаршчок, два бранзалеты, скроневыя кольцы.

Было тут і шыфернае праселка.

– Для гарадскіх паселішчаў, у большасці для 12-13 стагоддзяў, такая знаходка – звычайная справа, а ў такім раннім, прычым у курганным могільніку, досыць рэдкая з'ява, – расказвае Мікалай. – Гэта ўсё – пахавальны інвентар, тое, што клалася нябожчыку на той свет. Хавалі з упрыгажэннямі, з нейкім рытуальным посудам, напэўна, для пітва ці стравы рытуальнай. Тая сітуацыя, што і цяпер, калі, бывае, нябожчыку кладуць акуляры, расчоску ці кашалёк і гэтак далей. Так і тады было.

Другі курган быў калісьці разбураны, але засталіся рэшткі пахавання. Знайшлі там ляпны гаршчок з імітацыяй хвалістага арнаменту і некалькі бронзавых кольцаў.

Дэманструе Мікалай сабраны з кавалкаў гаршчок.

– **Нечым падобнае на складанне пазлаў...**

– Так, чысцейшае складанне пазлаў. У гэтым выпадку не надта складана было – за вечары тры невялічкі гаршчок атрымаўся.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Такі гаршчок сабралі з кавалкаў, знойдзеных у курганным могільніку Наўры.

### Мядзельшчына цікавая для вывучэння пахавальных абрадаў

Ва ўсходняй і цэнтральнай частцы яна была населеная крывічамі. А заходнюю насялялі продкі сучасных літоўцаў. І літаральна праз 20 кіламетраў пахавальныя абрады вельмі адрозніваюцца, тлумачыць Мікалай:

– Калі браць крывіцкія могільнікі, то знаходзяць самы звычайны інвентар, посуд. У жаночых пахаваннях – бранзалеты, фібулы (шпілька для вопраткі), пацеркі, нейкія прадметы побыту: нажы, крэсіва. У мужчынскіх пахаваннях сустракаюцца прадметы ўзбраення: сякеры, зрэдку наканечнікі коп'яў. Балты ў розных рэгіёнах да 14 стагоддзя працягвалі спальваць сваіх нябожчыкаў. І там бывае багацейшы інвентар, асабліва ў плане прадметаў узбраення – часта мужчын спальвалі са зброяй.

### Раскопкі ў Наўрах плануюць працягнуць

Сёлета Мікалай Плавінскі збіраецца працягнуць раскопкі на курганным могільніку Наўры.

– **Чаму такую ўвагу надаяце яму?**

– Гэта досыць добра даследаваны могільнік, таму ён найбольш цікавы для аналізу пахавальнага інвентару. Там раскапана ўжо больш за чатыры дзясяткі курганоў – адпаведна можна рабіць высновы аб колькасным складзе старажытнага калектыву, полу, узросце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Як чорныя капальнікі разбураюць курганы і ці дапаможа спыніць іх прэзідэнцкі ўказ "Аб удасканаленні аховы археалагічных аб'ектаў і археалагічных артэфактаў"? Пра гэта раскажам у адным з бліжэйшых нумароў "Рэгіянальнай газеты".**

ПСІХОЛАГ РАІЦЬ

## Чаму ў каханні не бывае вечнай вясны

**Мы можам многаму навучыцца ў прыроды. Менавіта ў ёй мы назіраем пастаянныя перамены. Усе расліны і жывёлы праходзяць праз цыкл часоў года.**

Кожны сезон прыносіць для нас свае законы і правілы. Наколькі мы іх ведаем, наколькі адчуваем сваё жыццё і жывём у рытме прыроды? Якая ў вас цяпер пара года?

**Вясна** – гэта надыход чагосьці новага, прырода накіроўваецца да жыватворнай цеплыні сонца. А ва ўнутраным свеце чалавека прачынаюцца новыя ідэі, думкі, пачуцці, жаданні і магчымасці. І вясной жыццё прапануе абудзіцца, скінуць з сябе заслону сну, суму, сумневы. Натхніцца новым.

**Летам** прырода працуе, ні ў адной істоты няма часу ленавацца або расслабляцца. Кожны заняты сваёй справай. Усё рухаецца да пэўнага выніку. Летні настрой прадугледжвае актыўную працу над сабой. Наш унутраны свет падобны да сада ці агарода. І прыйшоў час надаць увагу ўнутранай працы, каб сад душы прынёс плады ў канцы лета.

**Восень**. Гэта час высновы або прамежкавых вынікаў. Пачынаецца збор ураджаю з палёў жыццёвага досведу. Чалавек разглядае свае маленькія і вялікія перамогі ў сацыяльным жыцці і над сабой, любуецца марамі, якія спраўдзіліся, ён напоўнены радаснымі імгненнямі або хвілінамі спакою, раўнавагі і задаволенасці. Увосень магчымыя хвіліны суму. Прырода губляе слязінкі, як дажджавыя кроплі. А моцныя парывы ветру падобныя да адгалоскаў былога запалу. Але ўсе гэтыя ўражанні патрэбныя толькі для таго, каб падрыхтаваць сэрца да зімовага адпачынку.

**Зіма**. Яна асацыюецца са сном, адпачынкам і спакоем. Гэта час роздумаў. Холад, прыпыняючы хуткасць руху, дапамагае зразумець, што на самой справе мы хочам ад сябе і ад навакольных.

Калі мы хочам збіраць ураджай, то змена часоў года павінна нас супакойваць. Калі ж мы марым пра квітненне, то кругазварот пор года будзе засмучаць.

Гэтак жа і ў нашым жыцці мы можам дасягаць сталасці і пажынаць плён толькі ў тым выпадку, калі зразумеем і прымем для сябе, што многае сыходзіць і змяняецца, ствараючы перадумовы для ўзнікнення новага.

Такі рух адбываецца і ў пары мужчыны і жанчыны, таму што адносіны знаходзяцца ў пастаянным развіцці. Яны зараджаюцца, закаханыя пазнаюць адзін аднаго, падбіраюць самыя жаданыя падарункі, кранальна клапоцяцца адно пра аднаго – гэта вясна.

Яны развіваюцца, займаюцца сумеснымі справамі, вучацца саступаць адзін аднаму, правільна размяркоўваць абавязкі між сабой – гэтае лета.

Яны радуюцца доўгачаканага выніку – восень.

Яны маюць патрэбу ў спакоі, адпачынку, перапынку актыўнасці і замарожванні таго, што не нясе карысці – пустых крыўдаў, непрыемных слоў – зіма. І затым зноў надыходзіць вясна...

Упусціце ў свае адносіны чатыры асноўныя прыродныя рытмы – прынцыпы вясны, лета, восені і зімы. Не аддавайце перавагу аднаму з іх. Некаторыя аддаюць перавагу "вечнай вясне", і сумуюць з-за надыходу "восені" або "зімы". Такія адносіны збядняюць. А натуральны мунітэт, які дазваляе пераадольваць цяжкасці, зніжаецца.

Навучыцеся распазнаваць прыход у ваш унутраны свет вясны, лета, восені і зімы. І разам з прыродным рытмам прыйдзе гармонія, спакой і адчуванне шчасця.

**По псіхалагічную дапамогу можна звярнуцца па тэлефоне: (80176) 74-66-20 або па адрасе: Маладзечна, вул. Таўлая, 4. Кансультацыі праводзяцца бясплатна і ананімна.**

*По матэрыялах кнігі Таццяны Зінкевіч-Еўсцігнеевай "Майстар казак. 50 сюжэтаў у дапамогу развагаў пра жыццё, людзей і сябе для дарослых і дзяцей, якім больш за сем гадоў".*

**Вольга МАЛАШКА,**
**псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацзабеспячэння насельніцтва.**

# Як з нелюбімага дзіцяці вырасла знакамітая пісьменніца

## У Маладзечне сустрэліся з французскай пісьменніцай Ірэн Фрэн

МАЛАДЗЕЧНА

**Супрацоўнікі залы літаратуры на замежных мовах зладзілі сустрэчу з французскай пісьменніцай у межах міжнароднага кніжнага кірмашу ў Мінску.**

На мерапрыемства прыйшлі маладзечанскія франкафоны: настаўнікі французскай мовы, старшакласнікі гімназіі №3, школ №№4 і 11.

Ірэн Фрэн распавяла, як яна стала пісьменніцай. Жанчына нарадзілася на поўначы Францыі, у Брэтані, якая была разбураная ў пасляваенны час.

У сям'і было пяцёра дзяцей. Ірэн адчувала сябе нелюбімым дзіцем, яна лічыла, што бацькі, асабліва мама, больш любілі малодшых.

У час дзяцінства часта бавіла час на гарышчы і гуляла з гузікамі, прыдумляючы розныя гісторыі. Мама была швачкай, шыла для многіх багатых дам, якія дарылі шыкоўныя гузікі, таму ў Ірэн заўсёды былі героі прыдуманых гісторый.

Дзяўчынка шмат чытала, кліенты мамы прыносілі добрыя кнігі. Пасля бацькі падарылі ёй чытацкі білет у бібліятэку, дзе яна штодзень брала новыя і новыя кнігі.

Ірэн стала ў школе найлепшай па мове і сачыненнях. Гэта радавала дзяўчынку – хоць недзе яе хвалілі. Пазней атрымала адукацыю, стала настаўніцай, вучылася далей.

Цяпер яна адна з самых папулярных пісьменніц Францыі.

У Ірэн Фрэн жывая і вельмі правільная мова, таму яе было лёгка слухаць і разумець. У канцы сустрэчы госці задавалі пытанні.

Пісьменніца падарыла бібліятэцы тры кнігі на французскай мове.

**Таццяна ЛЕТУНОВА,**
**галоўная бібліятэкарка залы літаратуры на замежных мовах.**




Фота забеспячэнне Таццянай ЛЕТУНОВАЙ.

Французская пісьменніца Ірэн Фрэн у Маладзечне.

**Даведка "РГ". Ірэн Фрэн** – французская пісьменніца. Нарадзілася 22 мая 1950 года. У 1969-м выйшла замуж і нарадзіла дачку. У яе творах вылучаюцца тэмы, звязаныя са статусам жанчыны і захапленнем Усходам. Чатыры яе раманы перакладзены на рускую мову: "Набоб", "Стыль мадэрн", "Жаданні", "Клеапатра".

## Сёлета двое загінулі на чыгунцы

**За гэты год у зоне аператыўнага абслугоўвання Маладзечанскага АУСТ адбыліся два выпадкі смяротнага траўмавання.**

Прычынамі гэтых здарэнняў стала тое, што ахвяры не трымаліся правілаў бяспекі на чыгунцы. Яны перахо дзілі пуці перад цягніком.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў на чыгунцы, трымайцеся мераў бяспекі:

- пераходзьце пуці па пешаходных насцілах,
- пераканайцеся, што да вас не набліжаецца цягнік,
- звяртайце ўвагу на гукавую і светлавую сігналізацыю аб набліжэнні цягніка на станцыях і прыпынках,
- не пераходзьце чыгунку ў навушніках.

Тым, хто пераходзіць чыгунку ў неналежным месцы, пагражае адміністрацыйная адказнасць і штраф – ад 0,2 да 2 базавых велічынь (ад 42 000 да 420 000 рублёў).

**Міхаіл ГУД, начальнік Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Першая сусветная і міжваенны час

*Працяг. Пачатак у нумарах 3, 4, 5, 6, 7.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

І толькі ў 1807 годзе Вілейскі земскі павятовы суд сваім можна сказаць гістарычным рашэннем абазначыў вольнасць жыхароў мястэчка Маркава, гэта значыць, "з сялянскай рэвізіі выключыць і ў склад да горада Вілейкі залічыць". Яшчэ праз некаторы час князь Рапнін вярнуў былому старасту Тадэвушу Коцелу (ягоным нашчадкам) канфіскаваныя ў яго не толькі Ашмянскае староства, але і частку Маркаўскага, якая засталася ў Віленскай губерні.

У 1812 годзе нашчадкі Коцела віталі прыход французскіх войскаў, а маркаўчане сутыкнуліся з чарговымі рэквізіцыямі. З Маладзечна праз Маркава, Беніцу пры адступленні праязджаў Напалеон.

Самы бурны рост і развіццё Маркава зведала пасля 1861 года. У мястэчку тады налічвалася 45 двароў, у якіх жыло 369 жыхароў. Праз 36 год насельніцтва падвоілася (!).

Згодна з перапісам 1897 года, у мястэчку Маркава Вілейскага павета Віленскай губерні ўжо 122 двары, у якіх жыве 765 жыхароў.

Пачынаючы з 1900 года і да цяперашняга часу пастаянна, два разы на год, – 22 мая (цудатворца Мікалай) і 28 жніўня (Успленне Багародзіцы, ці Прачыстая, Аспажа) – арганізоўваюцца вялікія кірмашы-фэсты.

У 1911 годзе ў лесе паміж Маркавам і Беніцай, налева ад брукаванкі, на плошчы 60 гектараў стараннямі Баляслава Свентаржэцкага, уладальніка сядзібы ў Маліноўшчыне, быў закладзены звярынец. Да нашага часу тая мясцовасць завецца Звярынцам. Гавораць, цяпер вельмі грыбное месца.

У часы Першай сусветный вайны каля Маркава ў бок Беніцы стаяла расійская вайсковая часць. Мясцовасць больш за два гады заставалася прыфрантавой (30 вёрст ад лініі фронту) паласой з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі. Маркаўцы напоўніцу зазналі цяжкасці такога жыцця. Гаспадаркі бесперапынна падвяргаліся рэквізіцыям. Забіралі хлеб, фураж, жывёлу, прадукты харчавання, падводы. Да акопных работ прыцягваліся дзеці, падлеткі, жанчыны, старыя людзі, бежанцы.

Вайну не называлі "айчыннай", гэта была "вялікая вайна", канца якой не было бачна. Стыхійны патрыятызм салдат часта спалучаўся з поўным неразуменнем прычын і мэт вайны. Многія франтавікі гаварылі: "Каб мне знаць, у чым справа, з-за чаго народы, такія мірныя, перабіліся".

А.А. Брусілаў у сваіх мемуарах пазней узгадваў пра салдат: "...хто такія сербы, не ведаў амаль ніхто, што такое славяне – было таксама цёмна, а чаму немцы з-за Сербіі надумалі ваяваць – было зусім невядома". Трэцяя частка ваяк была непісьменная. Многія салдаты не ведалі ўвогуле, што такое Германія і Аўстрыя. Перамога ў такой сітуацыі была рэччу вельмі прывіднай.

### Палякі, немцы, саветы

Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года ў Маркава сталі вяртацца яго жыхары – хто з фронту, хто з эвакуацыі. На пачатку вясны 1918 года прыйшлі "першыя немцы". Змены ўлады сталі адбывацца з падзаронай хуткасцю. Немцы, затым на кароткі час – саветы, за саветамі – палякі.

Нягледзячы на такую блытаніну, у 1921 годзе ў мястэчку ўжо 148 двароў і 847 жыхароў. У той час Маркава ўваходзіла ў Сярэднюю Літву. У нацыянальным архіве адзначана, што ў лютым 1921 года ў Маркаве існавала беларуская школа, дзе навучаліся 132 вучні.

Адносіны нашых землякоў і ўвогуле мірнага насельніцтва да вайны ў час акупацыі вельмі трапна вызначыў Леў Талстой у рамане "Вайна і мір": людзі перш за ўсё хочуць займацца звычайнымі рэчамі – араць зямлю, сеяць хлеб, кахаць, нараджаць і выхоўваць дзяцей, нягледзячы на страх і цяжкасці ваеннага часу.

### Міжваенны час

Пасляваенныя наступствы маркаўцы пераадольвалі ў складзе Віленскага ваяводства Маладзечанскага павета Другой Польскай Рэспублікі. У Маркаве ў маёнтку стаў жыць пан Страшынскі. Цяпер на месцы маёнтка знаходзіцца дзяржсортаўчастак.

Мястэчка развівалася. Працавала пачатковая школа. Навучанне было на польскай мове. На тым месцы цяпер знаходзіцца прадуктовая крама. Далейшае навучанне адбывалася ў Беніцы.

Працавалі многа і цяжка, але ніхто не гададаў. На стале ў людзей заўсёды быў хлеб. У цане была зямля, бо з яе толькі і жылі. На з цяжкасцю адкладзены лішні злоты стараліся набыць ліпшую дзесяціну зямлі.[5]

Некаторыя гаспадары куплялі зямлю за тры-чатыры кіламетры ад места. Зямля была таварам. Ад 1930 года ўлада стала заахвочваць развіццё хутарскога ўкладу. Можна толькі ўявіць сабе, якім грабяжом абярнулася б калектывізацыя, каб не вайна.

Мясцовыя яўрэі, калі не было чым плаціць, давалі тавар месцічам у пазыку. Аддавалі затым збожжам, бульбай ці проста адраблялі па дамоўленасці на яўрэйскіх дварах. Ад 1930-х давол і значна стаў адчувацца польскі ўплыў на ўсе бакі жыцця. Адраджэнне польскай дзяржавы (Другой Рэчы Паспалітай) адбывалася з вядомымі супярэчнасцямі. Палітыка паланізацыі ціснула месцічаў. Веданне польскай мовы паступова зрабілася неабходнасцю.

Да 1939 года ў Маркаве ўжо налічвалася 160 двароў і 908 жыхароў. Мястэчка дасягнула ў сваім развіцці найвышэйшага пункту.



Фота забяспечанае Сяргеем КАСМАЧОМ.

**Адна з многіх тыповых маркаўскіх сем'яў. Дзед Сцяпан з бабуляй Ганнай і іх дзеці: злева направа Соф'я – пяць год, Пеця – два годзікі, Маруся (мама аўтара) – тры годзікі. Маркава. Польшча. 1927 год.**

5) Дзесяціна – 1,05 га (дзясятая частка ад 15 маргоў).

**Працяг будзе.**



**Сяргей КАСМАЧ, Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

20 ЛЮТАГА

**90 гадоў** з дня нараджэння Зінаіды Партновай (1926–1944), піянеркі-героя, падпольшчыцы, партызанкі, члена падпольнай арганізацыі "Юныя мсціўцы", разведчыцы партызанскага атрада імя Варашылава на акупаванай гітлераўцамі тэрыторыі Беларусі. Герой Савецкага Саюза.

21 ЛЮТАГА

**Міжнародны дзень роднай мовы.**

**1881 год.** Памёр Іосіф Ходзька, навуковец-геадэзіст, падарожнік, тапограф.

**25 гадоў** назад (1991) створаны аддзел па рэсурсах і землеўпарадкаванні Мядзельскага райвыканкама.

23 ЛЮТАГА

**Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

**1766 год.** У Францыі памёр Станіслаў Ляшчынскі, кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі (1704-1709 гг., 1733 г.). Пахаваны ў горадзе Нансі, дзе жыў у апошнія гады і дзе яму пастаўлены помнік. Нарадзіўся 20 кастрычніка 1677 года.

**125 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Піятуховіча (1891–1937), крытыка і літаратуразнаўца, праваадзейнага члена Інстытута беларускай культуры.

24 ЛЮТАГА

**40 гадоў** назад (1976) арганізаванае Мядзельскае таварыства аўтамотааматараў.

25 ЛЮТАГА

**1906 год.** Нарадзіўся Павел Каруза (в. Ваўкалатка, Дзісенскі павет Віленскай губерні), грамадска-палітычны дзеяч, кампазітар, этнамузыказнаўца, вязень савецкіх канцлагераў. Памёр 20 лютага 1988 года ў Вільні. Паводле некаторых звестак, род Карузаў перасяліўся ў Беларусь з Італіі. У 1947–1948 гадах працаваў у Доме творчасці ў Маладзечне.

СЁЛЕТА:

**465 гадоў** назад (1551) упершыню пісьмова згадваецца пра мястэчка Валожын.

**450 гадоў** назад (1566) упершыню пісьмова згадваецца пра мястэчка Занарач Мядзельскага раёна.

**410 гадоў** назад (1606) упершыню пісьмова згадваецца пра мястэчка Крывічы Мядзельскага раёна.

**335 гадоў** назад (1681) маршалак надворны Юзаф Багуслаў Служка заснаваў у Валожыне касцёл і манастыр бернардынцаў, пры якім існавала школа.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**


Падчас абраду

# Беларускія абрады,

**Убачыць ці проста пачуць з вуснаў кагосьці пра беларускі старажытны абрад сёння вялікая ўдача. Наш зямляк, гісторык, краязнаўца і фатограф Сяргей Лескець збірае іх як дыяменты ў скарбонку не адзін год.**

Ён пачаў рэгулярна выпраўляцца ў вандроўкі па нашым рэгіёне яшчэ ў студэнцкія гады. Грукаўся ў хаты, заводзіў размовы з бабулямі і дзядулямі, занатоўваў тое, што падавалася яму найбольш цікавым.

Калі Сяргей прафесійна стаў займацца фатаграфіяй, многія абрады фіксаваў на здымках. Прычым цяпер ён не абмяжоўваецца рэгіёнам, а занатоўвае абрады, якія праводзяць па ўсёй Беларусі. Мы распавядзём толькі пра некаторыя, пачутыя альбо ўбачаныя ім. І распавядзём яго вуснамі.

### Жаночая містэрыя на Запусты

*Ваколіцы Кемелішак, Астравецкі раён*

Большасць этнографаў мінулага стагоддзя былі мужчынамі. Яны ездзілі па вёсках, размаўлялі з мясцовымі, запісвалі традыцыі. Але існавалі абрады, на якія мужчын не дапускалі. Жанчыны нават распавядаць саромеліся пра тое, што адбывалася падчас такіх сходаў. Некаторыя рэчы замоўчвалі. Вось і пра запуставы абрад (у праваслаўнай традыцыі – Масленіца) на Астравеччыне стала вядома выпадкова.

Гэту традыцыю апісаў краязнаўца **Стэфан Казлоўскі**, якому пашчасціла прысутнічаць на абрадзе. Стэфану тады было 3,5 года, і не было як выправіць яго з хаты, дзе ўсё адбывалася. Хата гэтая належала яго бабулі.

Удзельнічалі ў абрадзе жанчыны, якія звычайна мелі ўжо і дзяцей, і ўнукаў. Яны збіраліся ў адной хаце, накрывалі на стол, завешвалі вокны і зачыняліся. За сталом заводзілі гаворку пра тое, што хутка вясна і трэба знайсці сяўца. У гэты момант ён і з'яўляўся: у масцы і з таўкачом паміж ног. Сяўцу падносілі чарку, частавалі прысмакамі. Пасля жанчыны садзіліся на лавы і ложкі ўздоўж сцен. Пакуль сейбіт сеяў збожжа, а дакладней, рассыпаў насенне, яны спявалі песні, задзіралі высока ногі і спадніцы ды не скупіліся на непрыстойныя жартачкі і прымаўкі.

Праз нейкі час пасля таго, як праводзілі сейбіта і сабралі з падлогі збожжа, з'яўляўся касец. Толькі замест касы ў яго руцэ была качарга, на твары – маска, паміж ног, як і ў сейбіта, – таўкач. Пачаставалі жанчыны і касца. Тады ён узяўся касіць пасеяную сейбітам збажыну.

Пасля касца прыходзіў трэці герой свята – пані Сёрба – увасабленне сувязі з іншым светам, канца гадавога цыкла жыцця. Твар яе таксама хавала маска, вопратка была зробленая з мяхоў і торбаў. У адной руцэ яна трымала пусты мех, а ў другой – мяшалку з начэпленым зверху пустым чыгуном.

Дагледзець абрад маленькаму Стэфану перашкодзіў сон. Хутчэй за ўсё, абрад і заканчваўся прыходам Сёрбы, бо да поўначы трэба было паспець не толькі дапіць і даесці тое, што было на стале, але і прыбрацца ў хаце.

### Масленіца з пахаваннем дзеда

*Вёскі Даўгапольскага сельсавета Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці*

Па легендзе, хаваюць дзеда, які ў апошнія дні перад постам падавіўся косткай і памёр. Вяскоўцы збіраюцца ў хаце, дзе "памерлы" ўжо ляжыць у труне. Дзед гэты, хоць і набіты саломай, апрануты ў сапраўдную адзежу і выглядае досыць натуральна. Паміж ног у яго непрыстойна тырчыць морква.

Жанчыны з паўгадзіны галосяць каля памерлага: "А на каго ж ты нас пакінуў…". Узгадваюць, якім ён быў добрым гаспадаром і як любіў хадзіць па бабах. Меў шмат жонак і яшчэ больш дзяцей.

У спадзяванні, што дзед яшчэ ачуняе, клічуць доктара, але той канстатуе смерць. Прыходзіць поп з кадзілам, апявае памерлага. Пачынаецца развітанне з дзедам. Як толькі новая жанчына падыходзіць да яго, морква паміж ног падымаецца. Вядома, з дапамогай галашэльніцы, што сядзіць тут жа побач сярод іншых і тузае за прывязаную да морквы вяровачку. Высвятляецца, што дзед і да адной бабы хадзіў, і да другой хадзіў, і што паўсюль у яго ўнукі і праўнукі.

Потым дзеда кладуць на сані, каб везці хаваць. Кругам правозяць па вёсцы і пад бярозамі закопваюць у снег. А далей усе ўдзельнікі вяртаюцца ў хату і спраўляюць "памінкі".

### Русальны тыдзень

*Вёскі Любанскага раёна Мінскай вобласці*

У некаторых рэгіёнах яго святкавалі замест купальскага тыдня. З цягам часу абрад забыўся, яго аднавілі на Любаншчыне.

Традыцыйна русалак асацыявалі з душамі тапельніц або загінулых немаўлят. Лічылася, што русалкі могуць знаходзіцца на сушы, пакуль у іх не высахнуць валасы. Але русальны тыдзень – выключэнне. У гэты час русалкі доўга блукаюць па ваколіцах, зазіраюць у вёскі і калі

“Цягнуць Каляду да дуба”.



Перанос Варварынскай свечкі.



Краязнаўца, гісторык, фатограф Сяргей Лескець:



Русальны тыдзень.

**”**

**Самае цікавае ў абрадах, што яны не ўніверсальныя для ўсёй Беларусі. У кожнага рэгіёна нешта сваё. Для мяне, чалавека ашмянскіх узвышшаў, незвычайна прыехаць на Палессе, багатае рэкамі, і пабачыць, як людзі жывуць. Там жа паўсюль вада, вада, вада і кусты пасярод вады. Як міфічная прастора. Некаторыя мясцовыя дагэтуль вераць у вадзяных і вядзьмарак.**

# якія знікаюць

на дарозе сустрэнуць маладога хлопца, могуць заказытаць яго да смерці.

Абрад у русальны тыдзень мусіць аберагаць людзей ад водных прыгажунь. У вёсцы сярод самых прыгожых дзяўчат абіраюць тую, што будзе русалкай. Яе апранаюць у белую сукенку, распускаюць валасы і надзяваюць самы прыгожы вянок.

Іншыя дзяўчаты вёскі таксама плятуць і ўскладаюць вянкі.

Падчас гуляння дзяўчаты са збанамі вады падыходзяць па чарзе да старэйшай жанчыны, якая кіруе гуляннем і загаворвае на адвод русалак, і выліваюць у яе збан ваду. На кім збан перапаўняецца, тая палівае вадой усіх, хто сабраўся на гулянне. Лічыцца, што гэта надае сілу і здароўе.

На гулянні дзяўчаты-нявесты спальваюць свае вянкі ў вогнішчы, каб не згубіць здароўе і прыгажосць.

Русалку ж выводзяць з вёскі да вады, дзе яна пускае вянок.

Лічыцца, што пасля гэтага абраду цягам года русалкі не будуць шкодзіць людзям.

## Абрад абворвання

*Вёска Баброўнікі, Астравецкі раён*

Рабілі яго на вельмі страшную бяду. Я пра гэты звычай пачуў ад адной жанчыны з Баброўнікаў, якой пра гэта расказвала бабуля. А тая пачула ад сваёй бабулі. У той час панавала халера, шмат людзей памірала. Каб выратавацца, вырашылі правесці абрад.

Згодна з ім, усім жанчынам вёскі трэба было талакой за адну ноч саткаць ручнік. Раніцай абысці з ім вакол вёскі і спаліць на скрыжаванні. Пасля на тым месцы паставіць крыж. Так вяскоўцы і зрабілі. Час мінуў, хвароба мінавала. Калі крыж струхнеў, непадалёк ад яго збудавалі каплічку святога Рафала, якая і надалей мусіла аберагаць мясцовых ад розных напасцяў.

## Перанос Варварынскай свечкі

*Вёска Басценавічы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Ёсць звесткі, што абрад праводзяць таксама на Мядзельшчыне, Брэстчыне, Барысаўшчыне*

Узнікненне свечкавых саюзаў, згодна з гісторыяй, цягнецца з дахрысціянскіх часоў. Першапачаткова іх існаванне было звязанае з культам агню. Раней патрапіць у гэты абрад было гэтак жа складана, як стаць знахаркай ці шаптухай: бралі толькі сваякоў. Цяпер жа ўсё выглядае іначай і ўзяць удзел можа ці не любая.

Лічыцца, што воск гэтай свечкі цудадзейны, святы і нават можа вылечыць ад бясплоддзя.

У абрадзе, які ладзяць на свята святой Варвары, удзельнічаюць толькі жанчыны. Кожны год свечку пераапранаюць, падразаюць воск знізу, а зверху нарошчваюць новы. Складаецца “Варвара” з трох частак: тулава, галавы і рук. Наверх на яе надзяваюць вясельны вянок.

Свечку падчас гэтага абраду пераносяць у іншую хату. Так яна пераходзіць ад адной удзельніцы абраду да другой. Ладзяць два застоллі. У першы дзень памінальнае – у той хаце, дзе свечка прастаяла год. На наступны дзень вясельнае – дзе свечка будзе стаяць наступны год.

Адна свечка можа захоўвацца вельмі доўга. У вёсцы Басценавічы ёй каля 110 гадоў.

## Цягнуць Каляду да дуба

*Вёска Новіны, Бярэзінскі раён Мінскай вобласці*

Гэтым абрадам заканчваецца святкаванне Каляд. Прычым у вёсцы Новіны яно цягнецца на тры дні даўжэй, да 21 студзеня.

Мясцовыя апранаюць сноп са збожжам ў жаночы строй. Абіраюць жанчыну, якая сядзе на сані і будзе трымаць Каляду па дарозе да дуба.

Лічыцца, што чым даўжэй дарога, тым вышэйшы лён уродзіць.

Ля дуба сані з абранай жанчынай і Калядой перакульваюць так, каб з гаршэчка, што стаіць побач з імі, пасыпаліся зярняткі. Тады ўродзіць ніва.

Пасля нежанатыя хлопцы замацоўваюць Каляду наверсе дуба, а старую здымаюць. Яе тут жа спальваюць і пачынаюцца карагоды, спевы, гульні.

## Жачкі

*Вёска Заскавічы, Маладзечанскі раён*

Час мяняецца, традыцыі знікаюць. Калі ў Заскавічах, дзе я нарадзіўся, раней хадзілі ў жачкі, калядавалі, то цяпер няма каму. Памятаю: возьмеш кошык на Вялікдзень і ідзеш з песняй:

*“Я маленькі жачак,*
*Поўзаю як рачак,*
*Прыгаю як жабка,*
*Дай яечка, бабка!*
*Не дасі яечка –*
*Уцячэ авечка!*
*Не дасі два –*
*Здохне свіння!”*

І людзі давалі: хто яйка, хто кавалак пірага. Пасля тыя, хто хадзіў у жачкі, збіраліся талакой, рабілі агульны стол і святкавалі. Валоўнікі, тыя, што хадзілі па хатах з песнямі, да жачак асабліва не рыхтаваліся. Узялі гармонік, торбу, чарку для разагрэву і пайшлі. І гэта было цудоўна, бо традыцыя жыла вельмі доўга ў сваім натуральным стане. Яна не была надуманай, штучнай, як гэта выглядае цяпер, калі яе спрабуюць аднавіць з дапамогай Дома культуры.

**Запісала Настасся РОЎДА.**
**Фота Сяргея ЛЕСКЕЦЯ.**

НАВІНЫ

### "Вілія" вырывае перамогу за хвіліну да заканчэння гульні

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

На выхадных прайшлі гульні першага тура ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

У ёй змагаюцца шэсць лепшых каманд з дзвюх груп. Сярод іх – дзве з нашага рэгіёна.

"Вілія" са Смаргоні 13 лютага ў Слоніме гуляла з мясцовым "Фарсажам". У напружанай гульні смаргонцы вырвалі перамогу 7:6.

– Увесь час прайгравалі па ходзе матча, хоць валодалі ініцыятывай.

"Гарэлі" 1:3 у першым тайме, але літаральна за хвіліну адыграліся, расказвае гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

У другім тайме за хвіліны тры-чатыры да заканчэння прайгравалі 5:6.

– Але спачатку **Дзяніс Міцкевіч** адважыўся на ўдар амаль з цэнтра поля і не пралічыўся: 6:6, – працягвае Віталь. – А за хвіліну да заканчэння **Юры Марціновіч** літаральна ўнёс мяч у вароты сапернікаў.

"Ашмяны" ў гасцях 14 лютага разгромна прайгралі "Энергіі" з Зэльвы 1:14.

"Вілія" ідзе на трэцім месцы, "Ашмяны" замыкаюць шасцёрку.

– Цяпер усё ў групе заблытана, – падводзіць выснову Віталь. – Усе, акрамя "Ашмянаў", прэтэндуюць на перамогу ў чэмпіянаце.

"Меліяратар" з Аўстраўца змагаецца ў першай лізе чэмпіянату вобласці. У першым туры ён прайграў у гасцях камандзе з Мастоў 6:18. Астраўчане пакуль на апошнім, чацвертым, месцы.

### У Вілейцы выбралі лепшых у чырлідынгу

ВІЛЕЙКА

На базе Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 13 лютага прайшоў раённы этап трэцяга рэспубліканскага конкурсу каманд падтрымкі па чырлідынгу "Піянерскія іскры".

Прынялі ў ім удзел дзве каманды: "Драйв" гімназіі №1 "Логас" і "Маладая Беларусь" гімназіі №2.

Перамагла ў раённым этапе каманда "Драйв". Яе ўзнагародзілі Дыпломам першай ступені аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама. Гэта каманда выступіць на абласным этапе конкурсу.

Пра ўсё гэта расказала загадчыца аддзялення арганізацыйна-масавай работы цэнтра **Марына Корнева**.

**Даведка "РГ".**
**Чырлідынг** – від, які спалучае элементы шоу і відовішчных відаў спорту (танцы, гімнастыка, акрабатыка).

### "Зубраня" і "Сілавік" ідуць без паражэнняў

МЯДЗЕЛ

Гульні чацвертага тура чэмпіянату раёна па міні-футболе пачаліся 10 лютага. "Сілавік" абыграў каманду райвыканкама 7:5, хоць і прайграваў пасля першага тайму. "Зубраня" абыграла прадстаўнікоў Крывіцкага спецыяльнага ПТВ №3 закрытага тыпу 8:1.

"Юнацтва" 12 лютага перайграла ФК Union Naroch 8:3.

Цікавым выдаўся матч паміж камандамі "ІП Мядзел" і "Спадарожнік".

– Гульня была напружаная. Хоць першы тайм мядзельчане выйгралі 1:0, але ў другім гульцы "Спадарожніка" пераламалі ход матча і выйгралі 3:1, – расказаў інструктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Кірыл Сенеў.**

Лідзіруе ў чэмпіянаце каманда "Зубраня". Яна ідзе без паражэнняў і мае 12 ачкоў. Па дзевяць ачкоў на рахунку "ІП Мядзел" і "Сілавіка", але ў апошняй каманды ящчэ гульня ў запасе.

### "Юнацтва" перайграла каманду аддзела адукацыі, спорту і турызму 8:1.

"Спадарожнік" у першым тайме годна супрацьўляўся "Зубраняці" – скончыўся тайм з мінімальнай перавагай апошніх 2:1. Але дапамог досвед гульцоў "Зубраняці". У выніку – іх перамога 5:2, расказаў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

Каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях знялася са спаборніцтваў, і лік матча з ёй анулявалі.

Лідзіруе пасля трох тураў каманда "ІП Мядзел", "Зубраня" – на другім месцы. У абедзвюх каманд па тры перамогі, а ў мядзяльчан лепшая розніца мячоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Лядовы палац у спісе самых дарагіх спартыўных збудаванняў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

**Алег Гаруновіч у блогу на by.tribuna.com сабраў 15 самых дарагіх спартыўных збудаванняў Беларусі. Сярод іх шмат хакейных арэн і толькі адзін футбольны стадыён.**

На 11-м месцы аўтар паставіў спартыўна-забаўляльны цэнтр у Маладзечне.




Фота static.panoramio.com.

У спартыўна-забаўляльны цэнтр у Маладзечне ўваходзіць не толькі лядовая арэна, але і аквапарк, басейн, трэнажорная зала, кавярня, боўлінг, більярд і спартыўныя секцыі.

**"Да "Дажынак" у горадзе пабудавалі разам аквапарк, лядовы палац і гульнявую залу. Сумарны кошт збудавання склаў 238 мільярдаў рублёў.**

Будаўніцтва пачалося ў снежні 2011-га, калі курс долара знаходзіўся на адзнаках 3 тысячы рублёў, а завяршыўся пры 8660 рублях за адну амерыканскую умоўную адзінку... Як мінімум, на аб'ект у райцэнтры выдаткавана 27,6 мільёна долараў", – указана ў блогу.

На трэцім месцы ў спісе – спартыўны комплекс "Раўбічы", які ацанілі ў 75 мільёнаў долараў. На другім – "Чыжоўка-Арэна" ў Мінску (189 мільёнаў долараў).

У лідарах па цане – "Мінск-Арэна".

"Праект-гігант, які ўмясціў велатрэк, каньковы стадыён і лядовы палац на 15 тысяч гледачоў, пацягнуў на рэкордныя для Беларусі 350 мільёнаў долараў. Хоць першапачаткова на "Мінск-Арэну" планавалі выдаткаваць толькі 105 мільёнаў".

**Паводле by.tribuna.com.**

### Міні-футбол дапамагае пасябраваць з законам

МАЛАДЗЕЧНА

Турнір па міні-футболе адбыўся ў сярэдняй школе №12 у суботу, 13 лютага. У ім прымалі ўдзел каманды сярэдніх школ №№ 8, 11, 12 і 14.

Спаборніцтвы былі цікавыя, напоўненыя вострымі момантамі. У выніку ўпартай барацьбы перамогу ў турніры атрымалі спартсмены СШ №14, на другім месцы – каманда СШ №12, а замкнулі тройку прадстаўнікі СШ №8. Таксама былі вылучаныя лепшыя гульцы. Імі сталі **Антон Кучар** (СШ №14), **Міхаіл Рудовіч** (СШ №12) і **Максім Філіпаў** (СШ №8).

– Спаборніцтвы прайшлі ў рамках акцыі "Сябруем з законам", – расказала **Галіна Кандраценка**, педагог-арганізатар фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі Маладзечанскага раёна. – Таму ў склад каманд мы запрасілі хлопцаў, якія патрабуюць асаблівай педагагічнай увагі. Хацелася такім чынам прыцягнуць падлеткаў да здаровага ладу жыцця. Мы лічым, што такія мерапрыемствы накіраваныя на прафілактыку супрацьпраўных паводзін вучняў.

Правілы міні-футбола амаль не адрозніваюцца ад правіл у звычайным, толькі кожны з двух таймаў доўжыцца 15 хвілін, а на полі па пяць чалавек у камандзе.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

### Маладзечанцы выйшлі ў фінал чэмпіянату вобласці па міні-футболе

Адзіную пуцёўку разыгралі на гульнях папярэдняга этапу 13 і 14 лютага ў Лагойску. Аспрэчвалі яе шэсць каманд, чатыры з іх – з нашага рэгіёна.

Адразу адбыліся спаборніцтвы ў падгрупах. У адной з іх перамагла каманда Мядзельскага раёна. Яна абыграла віляйчан 6:4 і каманду Крупскага раёна 5:2, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**. Віляйчане свой другі матч згулялі ўнічыю 3:3 і занялі другое месца.

У другой падгрупе перамаглі маладзечанцы, валожынцы – на трэцім месцы.

Назаўтра ў паўфінале мядзельскія футбалісты абыгралі каманду з Лагойска 3:2. У другім паўфінале віляйчанам залічылі за няяўку тэхнічнае паражэнне 0:3 ад маладзечанцаў.

У фінале маладзечанцы ўпэўнена перайгралі мядзяльчан 13:3.

Каманда Маладзечанскага раёна пазмагаецца ў фінале чэмпіянату вобласці, які намечаны на 12-13 сакавіка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У суботу ў Маладзечне – прабег

МАЛАДЗЕЧНА

Пастаянны ўдзельнік прабегаў і марафонаў, пераможца конкурсу ад "РГ" "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя!" **Васіль Лябецкі** запрашае аматараў бегу прыйсці і пазаўзець за сваіх фаварытаў.

Адкрытае першынство Маладзечанскага раёна па гадзінным бегу ў лёгкаатлетычным манежы (*Віленская, 56*) пройдзе ў суботу, 20 лютага.

У 11:30 стартуюць дзяўчаты да 18 гадоў і ад 18 гадоў і старэйшыя, а таксама мужчыны ад 60 гадоў.

У 12:40 стартуюць хлопцы да 18 гадоў і хлопцы і мужчыны ад 18 да 59 гадоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

### Чаму дарослыя дзядзечкі не могуць разабрацца з футболам у Маладзечне

Дазволіць піва – гэта цікава. А без піва ўжо нельга і глядзець на такую гульню? ***Умнік***.

### Працягваецца акцыя "Валянцінка для Ганначкі", цяпер збіраюць грошы на дапамогу іншым дзецям

Я мама Матвейчык Амеліі... Дзякуй вам за дапамогу дзецкам... І нізкі вам паклон за ўнёсак у "вялікую справу"!!! З павагай, ***Алеся Матвейчык***.

### Маладзечаншчына: цягнік насмерць збіў мужчыну, які ехаў на ровары ў навушніках

Нязгодны, слухаўкі не прычым. Тое самае, што напісаць не пра слухаўкі, а, напрыклад, пра новы абутак, які раварыст разглядаў на хаду. У слухаўках усё наваколле чутна! Можна нават весці гутарку... Мяркую, што ён хацеў праскочыць наперад цягніка, бо грузавы доўга чакаць. ***Nifeus***.

### Выклікаць у суд цяпер могуць па СМС і электроннай пошце

Нешта я не зразумеў. Значыць, любы можа даслаць мне смс-ку, кшталту, прыходзь-ка ты, дружа, у суд. І я павінен на задніх лапках прыбегчы? У якім выглядзе гэта будзе адбывацца? Можна і прыклад прывесці. ***Sh@m@n***.

### "Рабочыя "Будаўніка" не вінаватыя ў тым, што мы трапілі ў абцугі". Няпростая сітуацыя склалася з будаўнічай арганізацыяй у Маладзечне

Даваць жыллё ад работы – гэта савецкі рудымент, які ўганяе і чалавека, і ўсю яго сям'ю ў феадальную ячэйку грамадства. Кватэра – не клопат працадаўцы. Яго клопат – умовы працы і годны заробак, каб чалавек мог свае праблемы вырашыць самастойна, у тым ліку жыллёвыя. А яшчэ дзяржавы, якая павінна забяспечыць рэальныя магчымасці для маладых сямей, якія будуюць жыллё. ***Гаспадыня***.

### Дзе найбольш зараблялі ў рэгіёне летась (Інфаграфіка)

А хто бачыў гэтыя 5 300 000? ***Наташа***.

Віншую, віляйчане! Мы – самы бедны народ нават у рэгіёне! ***Марыя***.

Нягледзячы ні на што, Вілейка – самы любімы горад. А багацце – рэч, якую нажываюць. ***Валянціна***.

### Робяцца больш жорсткімі ліміты на пасылкі з-за мяжы – амаль у дзесяць разоў

Ой, як усё страшна! Я думаю, што 90% беларусаў ніколі за сваё жыццё ніякіх пасылак з-за мяжы і не атрымоўвалі. Дык з чаго шуміха? ***Марыя***.

Як жа надакучылі! "Купляйце беларускае". Навучыцеся рабіць якасна і нядорага! ***Ігар***.

ТЭАТРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
19 лютага – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
23 лютага – у 19:00

"**Маленькі свет**" (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
25 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Храбры кравец**" (музычная казка), *Браты Грым*, рус.
21 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | | | | | | |
| | | | 1 | 9 | | 8 | | |
| 8 | | | 3 | | | | 6 | 4 |
| | 3 | | | 8 | | 7 | | 9 |
| 7 | | 1 | | | | 6 | | 5 |
| 4 | | 5 | | 7 | | | 1 | |
| 2 | 4 | | | | 9 | | | 3 |
| | | 8 | | 4 | 3 | | | |
| | | | | | | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



КІНО

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
20 лютага – у 13:30
21 лютага – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
20 лютага – у 15:40
21 лютага – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Драма "**Фартуна**" (Беларусь, 2015)
24 лютага – у 17:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 лютага – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
19, 20 лютага – в 19:50
21 лютага – у 18:50
22, 24 лютага – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Стаўка на каханне**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 лютага – у 18:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Дзень выбараў 2**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
19, 20 лютага – у 17:40, 22:00
21, 23 лютага – у 21:00
22 лютага – у 18:50
25 лютага – у 21:30
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 лютага – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 лютага – у 19:10
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
19 лютага – у 17:00
20 лютага – у 13:00
21 лютага – у 15:10
Цана білета: 40 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 лютага – у 13:00
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (Расія, 2015)
21 лютага – у 17:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды, трылер, драма "**Выжыўшы**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
20 лютага – у 15:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Стаўка на каханне**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
20, 21 лютага – у 19:30
22, 24 лютага – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
19 лютага – у 21:30
22, 23 лютага – у 19:20
25 лютага – у 18:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Чорная трагікамедыя "**ГараШ**" (Беларусь, 2015, пасля 16 год)
20 лютага – у 18:10
22 лютага – у 18:00
24 лютага – у 17:50
25 лютага – у 17:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды, трылер "**Гонар, перадузятасці і зомбі**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
19 лютага – у 19:00
20, 21, 23 лютага – у 21:30
24 лютага – у 19:10
Цана білета: 55 000 рублёў



Прэм'ера! Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Фільм 12-ы: Ілжывая цэль**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23 лютага – у 17:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 лютага – у 21:00
Цана білета: 65 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**



## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кракнутыя канікулы**"(3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 лютага – у 14:00
Цана білета: 25 000 рублёў
20 лютага – у 13:00
21 лютага – у 12:50
Цана білета: 35 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**"(3D, ЗША, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
19 лютага – у 15:40
Цана білета: 45 000 рублёў
20 лютага – у 14:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 лютага – у 17:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, драма "**I пачаўся шторм**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 лютага – у 19:30
20 лютага – у 18:30
21 лютага – у 21:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (2D, ЗША, Канада, з 18 год)
19 лютага – у 21:30
20 лютага – у 16:30, 20:40
21 лютага – у 14:30, 19:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, драма, прыгоды "**Выжыўшы**" (2D, ЗША, з 18 год)
21 лютага – у 16:30
Цана білета: 40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Чароўнае каралеўства Шчаўкунка**" (Перу)
19, 20, 21 лютага – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Жахі "**Ваўчынае логава**" (ЗША, з 18 год)
19 лютага – у 17:50
20, 21 лютага – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**ГараШ**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 лютага – у 19:10
20 лютага – у 18:00
21 лютага – у 17:50
Цана білета: 20 000 рублёў

Драма "**Ведзьма**" (Расія, з 16 год)
19 лютага – у 20:20
20 лютага – у 19:10
21 лютага – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59**

ГАРАСКОП
19-25 ЛЮТАГА

**Авен.** Вы як ніхто іншы надзелены інтуіцыяй і ўменнем практычна наскрозь бачыць чалавека. Гэта будзе вам вельмі дарэчы.

**Цялец.** Цяпер ваша галоўная задача – знаходзіць радасць у дробязях. Трэніруйце ў сабе ўменне даравацъ, бескарыслівасць, спагадлівасць. Калі ў вас ёсць дзеці, то прывівайце такія якасці і ім. А яшчэ у вас будзе важкая прычына, каб ганарыцца сабой.

**Блізняты.** Зрабіце прыпынак у гэтым імклівым тэмпе жыцця, бо вы ўжо сталіліся і фізічна, і эмацыйна. Перагледзьце рабочы графік. Знайдзіце магчымасць для заняткаў спортам, актыўнага адпачынку. Альтэрнатыўнай крыніцай радасці можа стаць і рамантычная сустрэча.

**Рак.** Вы будзеце на вышыні, здзіўляючы ўсіх сваім аптымізмам, пачуццём гумару і знаходлівасцю.

**Леў.** Вам не трэба апярэджваць падзеі, добра было б затаіцца, і тады вы ўбачыце новыя магчымасці і варыянты развіцця той ці іншай сітуацыі.

**Дзева.** Не закружыцеся ў віхуры падзей, знаёмстваў і незапланаваных тратаў.

**Шалі.** Зоркі раяць звярнуць увагу на блізкага чалавека. Вашы няўважлівыя адносіны да яго на працягу апошніх тыдняў узвялі сцяну непаразумення і адчужанасці.

**Скарпіён.** Рамантычнае знаёмства нечакана для вас стане сапраўдным выпрабаваннем. Вы на практыцы адчуеце, што слухаць і чуць – гэта зусім розныя рэчы.

**Стралец.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя-самыя галоўныя. І кожны чалавек для сябе – самы галоўны. Ніколі не прыносьце сябе ў ахвяру, бо ахвяры нікому непатрэбныя.

**Казярог.** Захаваць цудоўныя адносіны пры вельмі хісткіх адносінах зможа той, у каго хопіць смеласці весці сябе так, як ні ў чым не бывала.

**Вадалей.** Галоўным рабочым выклікам стане неабходнасць удасканальвання. Не супраціўляйцеся гэтаму. Якім бы вы спецыялістам ні былі, заўсёды ёсць магчымасць пазнаць нешта новае. Хутка атрымаеце нечакана шчодры падарунак.

**Рыбы.** У выхадныя папесціце сябе новай абноўкай, паходам у кіно ці размовай са старым сябрам за кубачкам кавы з дэсертам.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

20 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +1 | | 0 / -1 | | -1 / 0 | | -1 / +5 | |
| | 744 | ↗ 5 | 741 | ↑ 6 | 732 | ↑ 6 | 732 | ↗ 4 |
| Вільня | -1 / 0 | | 0 / -1 | | -1 / +2 | | -1 / +7 | |
| | 751 | ↖ 3 | 748 | ↗ 4 | 739 | → 7 | 738 | ↗ 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.22
Захад 18.30
Даўжыня дня 10.08

Усход 16.15
Захад 6.56
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -21,3 °С у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +4,4 °С у 1998 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,5 мм у 1995 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by



## Чытайце праз тыдзень:

● **Калі ты адзначаеш дзень нараджэння 29 лютага, то ці значыць гэта, што табе ў чатыры разы меней гадоў, чым тваім аднагодкам, – задалі мы пытанне Ульяне Петуховай, якая нарадзілася 29 лютага. Ці паўплывала рэдкая дата нараджэння на яе лёс – чытайце праз тыдзень.**

## Прапануйце графіці для скейтпляцоўкі ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

Пачаўся конкурс на распрацоўку графіці для скейтпляцоўкі. "РГ" паведамляла, што размесціцца яна на тэрыторыі былой танцпляцоўкі ў гарадскім парку Вілейкі да фестывалю моладзевых субкультур "Энергія маладосці".

Конкурс праходзіць ад 15 лютага да 15 сакавіка ўключна. Потым будзе наладжанае анлайн-галасаванне.

Удзельнічаць можа як асобны аўтар, так і аўтарскі калектыў.

Удзельнікі мусяць мець прыклады выкананых графіці. На электронны адрас SKPVileyka@gmail.com можна дасылаць да трох эскізных варыянтаў.

Пераможцу уручаць узнагароджанне ў эквіваленце 300 долараў ЗША. Ён атрымае магчымасць выканаць прапанаваныя графіці на сценах.

Арганізатар конкурсу – грамадскае аб'яднанне па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК".

**Аддзел інфармацыі.**

## Упершыню абяруць "Місіс Смаргонь"

СМАРГОНЬ

Конкурс хочуць правесці на пачатку сакавіка.

Да ўдзелу запрашаюць замужніх жанчын з прывабнай знешнасцю ад 24 да 35 гадоў, якія маюць дзяцей.

Як распавялі ў Смаргонскім раённым Цэнтры культуры, ужо з'явіліся ахвотныя паўдзельнічаць.

Калі і вы жадаеце далучыцца, звяртайцеся ў Цэнтр культуры па адрасе: *вуліца Ветэранаў, 9.*

Тэлефон для даведак: **(801592) 4-63-55.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Абяруць "Міс Маладзечна"

МАЛАДЗЕЧНА

Адбор удзельніц конкурсу пройдзе 19 сакавіка ў 12:00 у канцэртнай зале Палаца культуры.

Запрашаюць дзяўчат ад 16 да 25 гадоў ростам ад 170 см.

Будуць ацэньваць творчыя нумары і візітоўкі, якія ахвотным удзельніцам у адборы варта падрыхтаваць загадзя. Пры сабе трэба мець купальнік і туфлі на абцасах.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ І МЯДЗЕЛЕ

## Ці хацелі б вы пераехаць жыць з горада на вёску?



**Дар'я Галумбеўская, Вілейка, харэограф:**
– Не хацелася б пераязджаць з горада ў вёску. Давялося рабіць у сельскай мясцовасці і, як паказала практыка, без машыны жыць там ніяк. Гэта каб былі большыя заробкі, тады можна машыну купіць і ў вёску ехаць жыць.



**Міхась Кулеш, Вілейка, фотамастак:**
– У вёску пераехаў бы, часта пра гэта думаю. Я натура творчая, таму хачу быць бліжэй да прыроды і далей ад гарадской мітусні. Адно з маіх нядаўніх захапленняў – гэта сад.



**Анастасія Лях, Вілейка, педагог-псіхолаг:**
– Усё жыццё жыла ў горадзе, а ў вёску ездзілі да бабулі. Пераехаць жыць у вёску жадання няма. Бо ў сельскай мясцовасці няма працы і забаў для моладзі і дзяцей. Усе наадварот імкнуцца ў горад.



**Аляксандра Каленьчук, Вілейка, бібліятэкарка:**
– На сённяшні дзень не хацела б. Па-першае, вельмі люблю родную Вілейку. Нават калі б цяпер была магчымасць пераехаць у сталіцу ці за мяжу, засталася б на маленькай радзіме. Па-другое, у мяне гадуюцца дзве маленькія дачкі і, канешне, хацела б забяспечыць ім як мага больш магчымасцяў праявіць свае таленты.



**Юры Яравіцын, Мядзел, пенсіянер:**
– Каб быў маладзейшы, то хто яго ведае... А цяпер, калі ва ўзросце, прывыкаеш да ўсяго. І ўжо цяжка мяняць свае месца жыхарства, звычкі.



**Віктар Анкіп, Мядзел, кіроўца:**
– А ў мяне ў горадзе, як у вёсцы. Тут і зямля ёсць, усё на ёй раблю.



**Кірыл Сенеў, Мядзел, спортінструктар:**
– Я сам з вёскі, і мне ў вёсцы падабаецца. Але дзе я буду жыць, цяпер цяжка сказаць. Усё залежыць ад таго, як складзецца жыццё. Скажам, як будзе сям'я, гэта пытанне трэба будзе разам вырашаць.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1086) 19.02.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 156. Падпісана ў друк у 9.00 18.02.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.